Цана сшытку 10 м.
Падпіска:
на 1 м-ц з перасылкай 20 м.,
на 3 м-цы 60 м.

# РУНЬ

БЕЛАРУСКАЕ ЛІТЭРАТУРЫ і МАСТАЦТВА.
Выходзіць у Менску штотыдзень.

Год выд. I.
№ 5—6
6 чэрвеня 1920 году.

## Апокрыф.

1. Ад Максіма Кніжніка пачатак . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

2. Калі скончылося сем тысяч год ад сатварэньня сьвету, Хрыстос ізноў зыйшоў на зямлю і хадзіў па ёй, каб споўнілося тое, аб чым казалі пракокі.

3. І хадзіў Ен па ўсяму нашаму краю: і па міншчыне, і па віленшчыне, і па магілёўшчыне, і па задзьвінскай зямлі.

4. І разам з Ім былі сьвяты Пётра і сьвяты Юры. Але ніхто з людзей не пазнаваў Яго.

5. Бо ішлі яны босымі нагамі, з непакрытымі галовамі і былі адзеты у белы кужэль, а не таго спадзяваліся людзі.

6. Таму ніхто не зьвярнуў увагі на іх, калі ў час жніва праходзілі яны між працуючых людзей.

7. Толькі музыка, катораму цяпер ня было што рабіць, падышоў да іх і сказаў: сорамна мне, бо сягоньня—дзень працы і ўсе клапочуцца каля яе; адзін я—нікчэмны чалавек.

8. І адказаў яму Ісус: ня смуціся у сэрцы сваім. Ці-ж не твае песьні сьпяваюць яны цяпер у часе жніва? Таму ня схіляй нізка галавы тваей, і не хавай твар свой ад вачэй людзкіх.

9. Бо няма праўды ў тым, каторы кажа, што ты—лішні на зямлі. Запраўды кажу я табе: вось надойдзе да яго гадзіна горачы — і чым ён разважыць смутак свой апрыч песьні тваей? Так сама і у дзень радасьці ён прызавець цябе.

10. І паўчаючы яго казаў: пад песьні кладуць чалавека у калыску, і са сьпевамі-ж апускаюць у магілу яго.

11. Штодзённымі клапотамі поўна людзкое жыцьцё. Але калі зварухнецца душа чалавека, толькі песьня здолее спатоліць яе. Шануйце-ж песьні свае.

12. Бо сьпяваюць нават жабы у багне. А ці-ж ня лепшымі будзеце вы ад іх?

13. Так вучыў Хрыстос. Але Пётра, пачуўшы яго словы, сказаў: Вучыцелю, у гэтай старонцы ёсьць людзі каторым няма чаго есьці. Ці-ж ня сьціснецца ад сораму сэрцо гэтага чалавека, калі ён да іх, шукаючых скарынкі хлеба, прыйдзе з песьняй сваей?

14. І, адказаваючы яму, сказаў Хрыстос: так, жыцьцё гэтых людзей цяжкае, беднае і прыгнечанае. Чаму-ж ты хочаш ячшэ і красу адабраць у іх? Мала дадзена ім — няўжо-ж трэба, каб было менш?

15. І, зьвярнуўшыся да музыкі, спытаў яго: калі пяюць песьні у вас?

17. Музыка-ж адказаў: пяюць на Каляды, на запускі, на Вялікдзень, на Тройцу, на Яна Купалу, у Пятроўкі, на зажынках і дажынках.

17. Пяюць на радзінах, і на хрэзьбінах, пяюць дзіцё калыхаючы і самі дзеці пяюць гуляючы; пяюць на ігрышчах і вечарынках і на вясельлях і на хаўтурох, і у бяседзе і ў працы, і ў маскалі йдучы, і у ва ўсякай іншай прыгодзе. Так скрозь увесь год пяюць.

18. І прамовіў Хрыстос Пятру: ты, шкадуючы долі галодных людзей, асудзіў песьню, але галодные людзі не асудзілі яе. Жыва яшчэ душа у народзе гэтым.



М. Багдановіч. † 25/v—1917.

19. Тады ізноў сказаў Пётра: але няхай-жа у песьнях будуць думкі добрые і паўчаючые, каб апрыч красы меўся у іх і спажытак чалавеку.

20. І адказаў яму Хрыстос: няма красы без спажытку, бо сама краса і ёсьць той спажытак дзеля душы.

21. І, паўчаючы іх, прамовіў: аглянецеся навокал! Ці-ж ня ніва калыхаецца каля нас?

22. Цяжка працаваў ля яе гаспадар і вось бачыць: паміж збожжа узраслі васількі.

23. І сказаў ён у сэрцы сваім: хлеб адбіраюць у мяне гэтые сініе кветкі; бо поўные вагі каласы маглі-бы ўзрасьці на месцы васількоў.

24. Але яшчэ з маленства краса іх прыйшлася мне да душы. Таму я ня вырву з каранём іх, як усякае благое зельле. Няхай растуць і радуюць, як у маленстве, сэрцо маё.

25. Так казаў гаспадар у сэрцы сваім і думках сваіх. І не падняў ён рукі на васількі.

26. Я-ж гавару вам: добра быць коласам; але шчасьліў той, каму давялося быць васільком. Бо нашто каласы, калі няма васількоў?

27. І, кажучы так, пачуў Ен песьню жнеяк, і прамовіў; слухайце, што кажуць словы гэтай песьні. Яе складалі людзі, каторые ведаюць, чаго варты хлеб.

28. Яны-ж пачулі, што словы тэй песьні кажуць: няма лепш цьвяточка над васілёчка. І далей ужо моўчкі ішлі яны.

29. І босые ногі Хрыста пакідалі на цёплым і мягкім пылу дарогі сьляды.

30. Але горо вам, людзі, бо даўно ужо затапталі вы іх. Амін.

Рукапіс гэты адшукаў

**Максім Багдановіч.**

# Абразкі з жыцьця Палесься.

(Гл. № 4).

## 9. Першы стан.

— Ну, ось і даехалі,—сказаў Яўхім уганяючы човен паміж двох чаўноў, якіе стаялі прывязаны-мы да івы.

Праз хвілю мы ўвайшлі ў хату Апанаса...

— А! каго бачу?—Яўхім і не адзін. Калі ласка, заходзьце, заходзьце, сядайце!—гаманіў ён, радасна вітаючыся з намі. Ня ўсьпеў я добра разглядзець Апанаса, як нехта мяне аклікнуў:

— Дзяргач! ты?

Я азірнуўся у той бок, з якога мяне аклікнулі, і перад маімі вачыма, разставіўшы рукі, стаяў Паўла...

— Палкоўнік!—вырвалося ў мяне:—вы тутака?! І мы моцна з ім пацалаваліся.

— Ось і добра! Здаецца, тутака спаткаліся толькі свае сябры,—весела загаманіў Апанас.—Ну, дык калі ласка, сядайце, вячэры хваце,—гаманіў ён, падсоўваючы міску з смажанай качкай. Вышіць так сама з дарогі трэба,—дакончыў Апанас налівающы чаркі.

Мы выпілі і закусілі. Даўно так смачна я ня еў. Гледзячы на мяне Апанас ухмыляўся і падмігіваў, пераплятаючы яду гутаркай!

— Што, пасьля дарожкі закусіць ня шкодзіць?! Ежце, калі ласка. Заўтра новых настраляем. Гэтага дабра шмат лётае над нашай хатай.

— Ну, і даўно я вас ня бачыў, — сказаў Паўла, палажыўшы руку мне на плечы.

— А ось, дзякуй Богу, як бачыце,—адказаў я яму.

За вячэрай мы ня прыкмецелі,—як ночка ўжо глядзела у вокны Апанасавай хаты...

— Ну, дзяўчаты цягнеце сено у хату!—скамандаваў гаспадар сваім дочкам. Тые пашлі спаўняць наказ бацькі, а мы з Паўлай вышлі з хаты.

На небе блішчэў ужо месяц і яго слабое яшчэ сьвятло наводзіло нейкую нуду. Мы прашлі колькі шагоў і селі пад бярозкай на лаўку.

— Ну, ось добра, што вы прыехалі,—казаў Паўла,—а то, бачыце, мы ўжо думалі, што нас забылі: ніхто не даваў вестачкі, што робіцца на нашай Бацькаўшчыне...

Я колькі магчыма, найлепей, растлумачыў аб нашых справах...

Гутарачы, мы не агледзеліся, як ночка нас апанавала зусім. Лес як-бы заснуў, адно ціхі шопат ішоў ад яго галін. Толькі рэчка Лань шпарка бегла і вада журчэла ў ёй ды іграла агнямі у вадзяным водблеску белага месяца. Ціха было наўкола. Недзе далёка, далёка, пракрычэла вартаўная дзікая гуска. Ей адклікнулася другая. Зноў ціха, зноў пануе ноч і шапоча сваю цудоўную казку.

## 10. Ганчар.

Чуць сьвітаньне, мы былі ўжо на нагах. Апанас закамандаваў бабам хутчэй даваць нам сьнедаць, каб доўга не марудзячы, крануцца у далейшую дарогу. Пасьнедаўшы, мы вышлі з хаты на бераг.

— Ну, сябры,—пачаў Апанас,—я еду з Паўлай, а ты, Ганчар—з Дзяргачом.

Ніхто не спрачаўся з ім, і неўзабаве мы ўжо сядзелі у чаўнох.

— Бывайце здаравенькі! заходзьце, як будзеце у нашым баку!—крычаў нам Яўхім, махаючы шапкай.

— Дзякуем!—адказалі мы. І нашые чаўны, кіраваные добрай, спраўнаю рукой, папясьціся па Лані

— Эх, і дзяныкі стаяць!—уцягваючы усімі грудзьмі сьвежае паветро, сказаў Ганчар.—Ніколі ня было такой добрай вясны, як гэтая. Гляньце, як сонцо сьвеце, як птушкі пяюць у гаі! І Ганчар увесь нейк настарожыўся. Во, чуеце?—казаў далей паказваючы рукой,—гэта малінаўка заліваецца, а гэта аўсянка піснула, а вун, там, во, чуеце, дзяцел ужо цюкае сваім дзюбам... Лепшай музыкі і ня трэба! Як пачнеш ось так прыслухоўвацца да птушынага гоману, дык так прыемна, спакойна робіцца на душы, што нічога, здаецца, болей і не жадаў-бы, каб толькі спакойна заўсёды слухаць, як пяе вясна.... Гляньце наўкола: ці-ж не да жыцьця, не дзеля радасьці паўстае прырода; А што ў гэты момант робіць чалавек?.. У апошніх словах голас Ганчара зьмяніўся на глухі і ў яго вачох ня відаць было ўжо той радасьці, з якой ён гаманіў аб птушках, лесе, аб вясьне.—А што робіць чалавек!?—панура казаў ён. А чалавек у гэту хвіліну рыхтуе стрэльбы, зьбірае ўсё тое, чым магчыма было-б адабраць жыцьцё у іншага...

Замест той любасьці і праўды, аб якой чытаемо у Евангеліі, мы бачым толькі кроў, агонь і зьдзек! Гдзе ўсе тые запаведзі Хрыста, аб якіх нам кажуць у касьцёлах і царквох? Гдзе яны? Іх няма! Няма! Чаму няма? А таму, што растаптаў іх чалавек сваёй бруднай нагой, зьніштожыў сваім нячыстым пачуцьцём... А чаму? таму, што няма душы ў чалавека... Няма!—горача казаў Ганчар, і сьлёзы бачыў я ў яго вачох.

— Божа справядлівы! Хто гэты чалавек? Адкуль ён?—думаў я, гледзячы на яго, а ён усё казаў...

— Паглядзеце, што сталося: брат ідзе на брата і ня відаць канца той беды, якая цяпер пануе... Кажуць, што гэта пройдзе і настане мір. Не, у гэта я ня маю веры... Ня маю веры, бо адвык чалавек быць чалавекам, ён цяпер горай за лютага зьвера, горай за дзіка, што прэ скрозь лазу, ня бачачы прад сабой... Так і чалавек цяперашні: ідзе ён шляхам сьмерці і ня сьпініцца, пакуль ня ўпадзе... Я бачыў сваімі вачыма такое здарэньне: Гэто было тады, калі я быў на Каўказе... Сабралася невялікая купка жаўнераў вакола палонных горцаў і пачала з імі гаманіць намігі ды іншымі знакамі,—мы не разумелі паіхняму, а яны—панашаму... Начальство забараняло гэтакіе размовы, але цікавасьць брала сваё, і, як толькі была магчымасьць выбраць мамэнт, калі ніхто з старшых ня бачыў, гаманілі з палоннымі горцамі. Раз у часе гэтакай гутаркі з шчэліны скалы вылез скарпіён і папоўз каля нас. Адзін з нашых жаўнераў, хацеў яго забіць, але горац стрымаў яго, і ўзяўшы ў руку невялічкі кіёк, пачаў прашкаджаць скарпіёну паўзьці. Той круціўся на ўсе бакі, але ўсюды спатыкаў кіёк, які не даваў яму уцячы. Тады скарпіён пачаў скакаць на кіёк. Забава гэтая усіх зацікавіла. Хутка горац падаў знак, каб яму далі агню. Хтось з жаўнераў высек з крэменю агню, а

другі прынёс бутэльку з газай. Горац зрабіў кійком на пяску равочак наўкола скарпіёна, наліў яго газай і падпаліў. Праз хвілю уваkруг скарпіёна быў агнявы круг. Скарпіён зашаматаўся, забегаў, соваўся ўсюды, але адусюль полымя агню варочало яго ў сярэдзіну. Бачачы, што ратунку няма, скарпіён сваім жалам забіў сябе... Усе былі зьдзіўлены, а горцы пераглянуліся паміж сабой і і загаманілі: «Кунак», «Кунак»! Ось і цяпер—казаў далей Ганчар—я бачу, што мы той самы скарпіён...

Ен скончыў, а я моўчкі сядзеў і думаў аб яго гутарцы і аб ім самым. Хто ён, гэты Ганчар?

Вецер пачаў мацнець і малые хвалі вады пераліваліся абганяючы адна адну па рацэ; сон хіліў маю галаву і калышучыся ў чоўне, як у калысцы, я заснуў.

## 11. Лес кліча!

Небо пакрылося чорнымі хмарамі і вецер загуляў, запеяў, сваю вольную песьню, гонячы прад сабой, як стада пастух, грозные хвалі... Човен кідало то ўніз, то ўгару, і здавалося, што ось-ось ён нырне носам ў ваду і згінем мы сярод хваль пад гоман непагоды... Але моцная рука Ганчара спраўна кіравала чаўном і ён, як птушка уцякаючая з лап каршуна, плыў паміж сярдзітых хваль, што наганялі яго і злосна грызьлі бакі. Ось блiснула маланка і грукнуў гром.... Першы гром! Дык здароў будзь першы гром! На роднай староньцы! Грымі грамчэй, каб чулі цябе усе па ўсім краі! Ты першы веснавы гром! Якіе нясеш ты нам мары?! Да чаго клічаш? Але не давало адказу небо, толькі лес шумеў, біліся хвалі аб берагі дышапацеў сухі сітнёг.

Хутка даплылі мы да берагу, прывязалі чаўны і выйшлі, каб схавацца гдзе ў лесе ад непагоды. А небо чарнело, часьцей на ім маланка гуляла і грухацеў гром. Вецер мацней рваў галіны з дубоў і далёка, далёка нёс іх, а потым кідаў у чорные хвалі; лес гудзеў, хісталіся вялікіе сосны, трашчэлі дубы і грабы, гнуліся белые бярозы. І ось раптам страшэнны загрухацеў пярун і пачаў ліцца буйны дождж. Кроплі даждж каціліся па сцёблах дрэваў, як-бы сьлёзы радасьці за тую пакуту, якую небо пасылало на зямлю. Ліў дождж, а лес шумеў прыветна, дзякуючы небу за пасланую ваду.

Ціха стаялі мы прыхіліўшыся да дуба, і чакалі, пакуль сьціхне непагода, каб плысьці далей. Урэшце, перастаў ліць дождж, вецер пагнаў цёмные хмары, раскідаў іх па шырокім небе, праменьні сонца загулялі і засьвяціліся мільёнамі брылянцістых агнёў у кроплях дажджу.

Праз хвілю мы зноў плылі па Лані, хвалі ўжо забыліся на сваю злосьць і ласкава гналі сабою човен. На берагах з абадвух бакоў бліщчэў абмыты лес і клікаў да сябе... Яго шум надзіў і абяцаў таму, хто прыдзе да яго, супакой душы, шчасьце і ціхую радасьць.

Шумі, шумі зялёны лес! Шумі мацней, хай пачуюць цябе людзі, бо ты клічаш, клічаш іх да сябе... Дык чакай, чакай родны лес! Хай ніхто на кліч твой не адгукнецца, хай ніхто не працягне да цябе, як да збаўцы, рукі, але мы, мы ўжо пачулі кліч твой! Мы зразумелі яго! Чакай! Мы прыдзем!...

## 12. У сваіх.

Чаўны шпарка плылі, як ластаўкі ў гняздо, да берагу, і праз хвілю мы пад гоман сяброў, што сустрэлі нас на беразе, выйшлі з чаўноў... Цесным колам нас абступілі, знаёмые і незнаёмые людзі і аж да зоркі вячэрняй шла гутарка аб справах, якіе цікавілі сяброў. Пасьля пайшлі у хату гдзе гаспадыня дала смачную вячэру. Я прыглядаўся да сяброў. Шмат было новых і шмат старых, якіх я з даўных часаў добра ведаў. У хаце пачынало цямнець і гаспадар запаліў смаляка на чугуннай рашотцы, што была падвешана на чатырох дратох да вялізнага звону зробленага з гліны, з галавы звана ішла труба у комін, куды ляцеў, крадучыся, чорны дым ад гэручага смаляка. Аж мне не хацелося сядзець у хаце; захапіўшы з сабой кажух, я вышаў, узяў з воза ахапак саломы да пабрыў у лес, які быў зараз за брамай і прыветна шумеў. Я выбраў сабе добрае месцо пад сосной, палажыў салому і ўсеўся на ёй. Небо было чыстае, ніводнага воблачка ня было відаць, толькі зоркі ўжо пачалі загарацца адна за другой... Доўга глядзеў я ў небо і ня прыкмеціў, як заснуў.

## 13. Мой сон.

Я спаў... Наўкола мяне стаялі вялікіе сосны, елкі, тоўстые грабы, дубы, асіны, белые бярозы, ліпы ды іншые дрэвы. Яны абступілі мяне з усіх бакоў і вялі паміж сабой гутарку аба мне... Чую, як вялікая сосна сярдзіта закалыхалася і пачала гаманіць:

-- Сябры, ось прад вамі ляжыць чалавек. Вядома вам, што чалавек найгоршы вораг лесу. Ен губіць шмат усялякіх дрэваў, і ось цяпер ён перад намі. Мы павінны судзіць яго, сябры! судзіць павінны, бо чалавек нясе нам толькі зьдзек і сьмерць!—сказала сосна і ўсе сосны згадзіліся з ёй і пачалі наступаць на мяне з крыкам:

— Судзіць яго! Судзіць!

— Стрывайце!—загаманіла ёлка,—суд павінен быць над ім самы срогі і кожны хай скажа, што зрабіць яму.

І чую я, як усе загаманілі:

— Мы заколем яго сваімі голкамі!--закрычалі сосны і елкі.

— Мы раздушым яго цяжарам сваіх цел!—грымелі дубы і грабы.

— Мы затруём яго сваім духам!—крычалі ліпы.

І ось бачу я, як уся грамада лесу пасунулася да мяне і зрабілося мне цяжка—не хватае духу у грудзёх, ажно раптам чую ціхі голас, такі прыемны, быццам званочак зазьвінеў у паветры:

— Спынецеся, браты! Чаго вам трэба ад гэтага чалавека? Ен наш, ці ня бачыце вы гэтага? Ці ня бачыце, як спакойна ён лёг сярод нас? Чула яго душа, што мы захаваемо яго ад людзей, дамо адпачыць яго змучанай душы! Ен уцёк ад людзей, бо ня мог жыць сярод іх, і уцёк, уцёк да нас, каб мы яго ратавалі ад зьдзеку і сьмерці. Дык ці-ж маем мы права рабіць так, як робяць людзі, хто ідзе да іх на дапамогу! Не, браты! Мы павінны сагрэць яго душу, хай ён жыве сярод нас! Дамо яму адпачыць!

Ціхі голас гаманіў і грамада дрэваў сьціхла і перада мной скланілася белая бяроза, ціха ша-

мочучы галінамі над маей цяжкай галавой, ды сьцішна гаманіла:

— Сьпі спакойна згнаньнік, сьпі! Сон твой ніхто ня стрывожа,—на варце стаяць верные вартоўнікі. Сьпі пакуль праменьні сонца не загуляюць у галінах!

— Божа правы! Гдзе і што са мной?—мігнула думка у мяне, і я прачнуўся. Азірнуўся... Усё ціха. Месячык прыемна сьвеціць з вышыні неба, гарэць зоркі. А лес стаіць як-бы зачарованы ночкай і нейкі асаблівы, чуць прыкметны шопат плыве з галін. Ці ня казку ён кажа ўночы, ці ня перадае таёмные апавяданьні пра жыцьцё сваё. Гэты цёмны, мілы сэрцу майму, родны лес! Дзякую табе, Божачка, за гэты сон! Яго я разумею! Ось і бярозка тая стаіць перада мной, што ўсьцерагла мяне ад суду і так сама штось кажа, махаючы мне галінамі. Бачу, разумею яе. Яна кажа:—Сьпі! Ня бойся нічога!

*(Працяг будзе).*

**Дзяргач.**

---



Вішнеускае возеро у Ашмяншчыне.



Смалярня у Случчыне.

## ЭЛЕГІЯ.

*Чаму-ж гэта млосна, галава зьвісае*
*Нідзе няма рады душу адрадзіць?..*
*Сэрцо боль пякучы ўсё грызе, кусае,*
*Аднімае ногі—не дае хадзіць.*
*Дык яшчэ-ж і старасьць ад мяне далёка*
*Яе ня відно мне нават і праз сон,*
*Але-ж, гэтак сама: скуль прыдзе палёгка*
*Ніяк не згану я, Божа, сколькі дзён!*
*Ніяк не прачнуся ад нуды-нядолі,*
*Ад цяжкіх, свабодных думкаў маладых,*
*Бо хачу я шчасьця—ўсім жадаю волі,*
*Неба яснай цішы, зоркаў залатых.*
*Чаму-ж я так хворы, чаму я няшчасны!*
*Нашто такі гоман ў маёй галаве*
*Ды ў вачох так мутна, погляд мой няясны...*
*Бо ў тумане жыцьце ўсё маё плыве.*
*Праз яго, як сьцены, ня відаць нічога.*
*Глянеш навакола—аж бярэ жуда,*
*Застываюць жылы, нібы ў няжывога*
*Ужо і жыць, здаецца, згінула наўда.*
*Дзе-ж тая дарога да жывой крыніцы,*
*Каб зьлячыць нядолю кропляю вады?*
*Дзе спакой чароўны—ясната зарніцы*
*Ды хоць званьне волі, хоць яе сьляды?*
*Ціха папялее полымя свабоды,*
*Вецер разьмятае дробные вугле,*
*Пакруціўся й попел з віхрам непагоды*
*Па багне-балоце, па сырой ральле...*
*Чаму-ж гэта ветру сонцо ня стрымае*
*Дый ня спыняць віхру хвоі курганоў?*
*Чаму-ж гэта млосна, галава зьвісае,*
*Рукі - ногі млеюць, як ад кайданоў?*

10/VI—18. **Краўцоў Макар.**

## РАМАНС.

Ахвярую А. А...

*Сьпявай мне, дзяўчынка, пра кветкі, пра гай,*
*Пра лепшые дні, пра вясну,*
*Пра наша каханьне, галубка, сьпявай,—*
*Пад ціхі твой сьпеў я засну.*
*Ці помніш спатканьне, нясьмелы пагляд!..*
*Нам зорка там з неба упала,*
*Там месячык ясны ўзіраўся на сад.*
*Ты думкі мае угадала.*
*І песьню пачуў я, ты пела тагды,*
*А гукі нясьліся далёка,*
*Тэй песьні вясеньняй асталісь сьляды,*
*У сэрцо запалі глыбока.*
*Гады праляцелі... Нібы неўзначай,*
*Мы разам спаткалі вясну...*
*Дык зноў тую песьню, дзяўчынка, сьпявай,—*
*Пад ціхі твой сьпеў я засну...*

1920 г. **М. Кудзелька.**

# ПРЫМАКІ.

**Сцэнічны жарт у І-м акце.**

*Передрук забараняецца.*

АСОБЫ:

Максім Кутас.
Паланея—яго жонка.
Мацейка—іх сын.
Трахім Сініца.
Даміцэля—яго жонка.
Кацярынка—іх дачка.
Урадңік.
Соцкі.
Сяляне, сялянкі.

Рэч адбываецца у часе, калі былі манапольні, на другі дзень Семухі, у хаце Трахіма Сініцы.

---

ЗЬЯВА 1-ая.

МАКСІМ — адзін.

Максім (ляжыць на ложку і разглядаецца па хаце). Цьфу, каб цябе паляруш! Куды мяне, самдзеле, загнала нядобрае? Ці гэта я жыву, ці гэта я ня жыву, ці гэта я толькі сьню? Папрабую сам сабе па носе стукнуць, а ну-ж пазнаю, на каторым я сьвеце. (Ударае сябе па твары рукой). Ай, баліць, каб цябе немач! Значыцца, я на гэтым сьвеце і навет ня сплю. Але як тут споўзаць па розум да галавы і навясьці спраўку, куды мяне ліхаманка з сваей хаты перавалакла? Бо-ж такі хата гэта не мая, як сабе, мае міленькіе, хочаце. У маёй хаце павуціньне па ўсіх чатырох куткох, а тут бачу—толькі на трох... У маёй—абразы: Юр'я на белым кані з доўгаю пікаю і Мікола у бляшанай шапцы; а тутака, праўда, Юр'я ёсьць, але на месцы Міколы вісіць «Страшны суд». Брр! Які ён, самдзеле, страшны гэты «Страшны суд!» І давялося-ж мне папасьці у хату з гэтым судом страшным! Пачакайце! Як гэта выйшла? Учора была, здаецца, нядзеля? Так, такі-ж нядзеля, ды першая у гэтым тыдні. Раніцай еў бліны, пасьля спаў да поўдня; устаўшы паабедаў ды ізноў хацеў легчы, але тут і выйшла закаклюка. Мая Паланея, як распаланелася на ўсю сваю моц, дык і сон мой прапаў аж да часу, калі я ўжо ня помню, як апыніўся на гэтым вось чужым ложку. Дзе-ж! Трэба ведаць! Прычапілася канечне, каб я вёў кабылу пасьвіць. Нашла пастуха! Я кажу—не павяду! Яна кажа—павядзеш! Я кажу—не мяшайся у маю гаспадарку! А яна і паехала-паехала: а ты сякі-такі, а ты ламака, а ты абібока, а ты, а ты!.. Каб цябе ня знала, а пайшла за Трахіма Сініцу, як ён да мяне сватаўся, дык бы паняй была, а за табой, дурнем... Як сказала яна: «дурнем», ну, дык, мае міленькіе, хто-ж гэта вытрымае? Калі-б хто і папраўдзе быў дурань, дык не засмакуе, каб яму ў вочы гэткі чын давалі ды яшчэ хто? Родная-раднюсенькая жонка! Ну, як яна, значыцца, сказала, самдзеле, дурань, дык мяне аж за самые вантробы забрала. Усхапіўся я, самдзеле, з ложка, атшпіліў дзягу і ўжо думаю сабе... А яна, тут успамінаючы,—ня дзяга а мая жонка,—вазьмі ды схапі мешалку. Ох, мае міленькіе! Сам Люцыпар, відаць, выдумаў гэтые мешалкі, як падсоваў нябошчыцы Эві яблыкі у раі. Бо дайце-ж рады! Паліў я гэта яе,—значыцца, мешалку, а ня Эву,—колькі раз, на дробные кусочкі сек, і ўсё роўна: як прыдзе што да чаго, дык, на табе, і ёсьць! І, каб це ліхаманка, яшчэ выдумалі стаўляць гэтые мешалкі ў качарэжніку, каля парога. Значыцца, як ўгледзеў я, што мая баба бярэ гэты, згінь-прападзі!—пісталет бярозавы, ну, а я... што-ж я? Бачу, што неперaлiўкі,—схапіў бравэрку пад паху, і, трымаючыся за панеьніцу гэта, каб ня спутала мяне самая патрэбная рэч, —ды гэтак: скакель праз вакно!.. Балазе, што хоць было адчынена. Ня думайце, мае міленькіе, што гэта я сьперапугу задаў так лататы. Гэта я так сабе, як вам сказаць, на далікатны манер пусьціўся. Я-ж, як самі бачыце, пэўне што яе не баюся. Ды што-ж бы было, каб даведаліся суседзі, што я ў сваей аздабульскі пад хвартухом сяджу? Я не такі трус, як гэты Трахім Сініца: чуць яго Даміцэля мешалкай памеціцца, дык ён са страху аж дрыжыць. Ну, значыцца, як гэта я спакойна сабе выбег з хаты, узяў ды пайшоў памаленьку на сяло. Дзягу на сваім месцы замацаваў, бравэрку на плечы накінуў—гэта, значыцца, каб форсу больш было,—іду сабе па вуліцы, як нішто ні ў чым. Падходжу пад манапольку, глядзь—сядзіць мой Трахімка Сініца на ганку і трымае паўквартачкі ў руках,—гарэлачка і шкло аж пераліваецца на сонцы! „А мой-жа Кутасок!“ Гэтак ён да мяне—садзіся, кумочак—галубочак! А то я думаў-думаў, з кім-бы гэту палавінку ды яшчэ напалавінку перакрышыць?“ Ну, а я, канечне, чалавек натуры неўпарчывай: чаму-ж, думаю сабе, ад добрага суседа ласкі ня прыняць? (Пазяхае). Ха-ха-ха! нешта ізноў спаць хочацца. (Сонна). Селі мы гэтак сабе—я і Трахімка—асушылі паўквартачкі адну, другую, трэцюю. Сядзелец,—каб яму і ў пекле здароўе было ды панаваньне,—вельмі падатлівы ў нас, і ў нядзельку гарэлачкай таргуе, хоць гэта, кажуць, закон і забараняе. Вось цяпер, значыцца, і ня помню, як я ў гэту не ў сваю хату папаў. Ведаю, што за нешта рукі пабілі, барыш нейкі пілі, цалаваліся, Трахімка сьлязу пусьціў, і я ня вытрываў, размасьліўся, а там... а там хоць лопні, нічога ня ведаю!.. (Праз сон). Можа як засну, дык прысьню, хто я і дзе я?.. (Засынае).

ЗЬЯВА 2-ая

МАКСІМ—КАЦЯРЫНКА.

Кацярынка (адзеўшыся пасьвяточнаму, у руках кветкі і з кветак вяночак на галаве; убягае ў хату, напяваючы).

Ой, чуць, маці, чуць,
Дзе малойцы пьюць!
Вясёлая там вуланька,
Куды яны йдуць.
  А знай, маці, знай,
  Дачку замуж дай!
  Ня дай мяне за пьяніцу,
  Посьле-ж будзе жаль.
Дачушка мая,
Родная мая.
Шукай сабе, выглядывай:
Яшчэ-ж малада!
  Матулька мая,
  Родная мая!
  Я-й шукала, выглядала.
  І ўжо выбрала.

(Круціцца перад люстэркам і прышпіліваe да грудзей кветкі). Ха-ха-ха! Якраз, як маладая да шлюбу, сягоньня я паднядзеліласяl Як убача Мацейка, дык

ота-ж усьцешыцца! Ох, і ўмее-ж ён абнімацца і цалавацца! А каб было каму? Ці даўно разам у баб-кі гулялі і ў поле ганялі, а ўжо, на табе! За дзявочымі спадніцамі так і бегае, як падсмалены. І нячысьцік яго ведае, адкуль гэта ўсё ў яго бярэцца? Так абніме, так да грудзей прыціcьне, ажно неяк млосна-млосьненька робіцца! А як пачне цалаваць і цалаваць без канца, дык, даліпантачкі, твар гарыць, проста, як хто яго крапівой высек. Ох, Мацейка, Мацейка! Штосьці зашчыльна ты ка мне прыліпаеш, каб не наварылі гэтак мы з табой якой саладухі. (Максім храпе). Ай, гэта-ж тата на ложку! А я думала, што ўжо пашоў. Ну, добра, што хоць сьпіць, як апошняе у печ усыпаўшы, а то было-б паранкі і мне і Мацейку за такую маю гутарку. (Далей круціцца перад люстэркам, прымярае, як лепей, вянок і напявае).

У гародзе качка,
За гародам качка,
Любіць, любіць мой міленькі,
Хоць я не дварачка!
У гародзе мята,
За гародам мята.
Любіць, любіць мой міленькі,
Хоць я небагата!
У гародзе птушка,
За гародам птушка.
Любіць, любіць мой міленькі,
Хоць я не падушка!
У гародзе вішня,
Ля вішні—чарэшня.
Любіць, любіць мой міленькі,
Хоць я не яешня!

Ха-ха-ха! Хоць я не яешня, а пэўне, як глядзіць на мяне, дык сьлінкі так і цякуць. Каб толькі папусьцілася, дык зьеў-бы мяне і не аблізаўся-б нават.

У гародзе дзічка,
За гародам дзічка,
Любіць, любіць мой міленькі,
Хоць я невялічка!

Ой, Ой! Хоць я і не вялічка, але добра ўжо ведаю, чаго хлапцом ад мяне хочацца.

У гародзе хатка,
За гародам хатка. (Глянуўшы у вакно).
Ой, ідзе ўжо мая матка,—
Будзе вайна з таткай.

### ЗЬЯВА 3-ая.

### МАКСІМ—КАЦЯРЫНКА—ДАМІЦЭЛЯ.

Даміцэля (уваходзіць з судамі вады і стаўляе іх каля парогу на прылаўку. Да Кацярынкі). А ты гэта, сарока, чаго так ухмыляешся да люстэрка, як серада на пятніцу? Звалаклася недзе, а тут аднэй мне хоць падарвіся: ні вады каму прынесьці, ні ў хаце прыбраць. Зараж-жа мне хату замятай! (Порацца качаргой у печы).

Кацярынка (замятаючы хату). Чаго, мамка, раз'ехалася, як Прачыстая па сенажаці? Я-ж не сядзела, рукі залажыўшы. (Расьцягіваючы). У-ста-ла, па-мы-ла-ся, павяла ця-лу-шку, напасьвіла, назьбірала кве-та-чак і вяночак сплялa! (Кідае венік, зьнімае вянок і хоча надзець яго матцы). Паглядзеце, які харошанькі! А як ён мамцы ідзе да твару! Даліпантачкі, хоць да шлюбу мамку вядзі! Каб татка угледзеў, вота-б пацалаваў з любасьці!

Даміцэля (зрываючы вянок). Адчапіся,назола! Я ўжо на каптур замяніла свой вянок у царкве, а ты з вялікай рызыкі, каб толькі ня згубіла свайго дзе пад плотам.

Кацярынка (ізноў налажыўшы сабе вянок на галаву, замятаючы хату). А скажэце, мамачка: ці гэта ня ўсё роўна будзе, ці вянок у царкве на каптур прагандляваць, ці згубіць яго пад плотам? А мо' і мамка перш згубіла, а пасьля памяняла?

Даміцэля. Замятай вось лепей, а не мялі языком, як калатоўкай! Яшчэ молада,—усё ведаць, што трэба і што ня трэба.

Кацярынка (круцячыся з венікам і прыпяваючы).

Сама хату падмяла,
Сені выпратала:
Сама сябе палюбіла,
Сама высватала!

Даміцэля. Пацеры ці згаварыла, што так выкручваешся, як скурат на агні? Бяры настольнік і засьцялі стол! Сьнедаць даўно ўжо пара.

Кацярынка (засьцілаючы стол). А, мамка, тату будзеце, а то усю гаспадарку сваю прасьпіць.

Даміцэля (стаўляючы на стол яешню і бліны). Глядзі, каб ты толькі сама сябе не праспала, а за бацьку ня бойся!

Кацярынка (глянуўшы на яду). Ого! Мамка сягоньня бліноў і яешні напякла.

Даміцэля. А нешта-ж ты ня ведаеш, што сягоньня толькі другі дзень Сёмухі? (Ідзе к ложку і будзіць Максіма). Трахім! Трахім! Уставай! Годзе табе адлежаваць бакі! Паўдня ўжо на дварэ! На стале сьнеданьне! Уставай! (Прыглядаючыся к бравэрцы). Адкуль ён гэту бравэрку сьцягнуў? Гэта-ж ня наша! Паглядзі, Кацярынка!

Кацярынка (прыглядаючыся). Але-ж, ня наша! Мусіць тата памяняў з некім, як мамка вянок на каптур.

Даміцэля. Ды ўжо-ж недзе памяняў, бо ўчора, апоўначы, пьяны прыйшоў, чуць памагла на ложак узабрацца. (Тузаючы Максіма). Уставай-жа, каб ты ня ўстаў! А то зараз мешалкай...

Максім (усхапіўшыся і хрысьцячыся). Цьфу, ізноў мешалка! Каб яе пярун пашчапаў! (Даміцэля і Кацярынка адскаківаюць ад ложка, зьдзіўленые, перапужаные).

Даміцэля. Гэта-ж не Трахім! } разам.
Кацярынка. Гэта-ж ня тата! }

Максім (праціраючы вочы, у бок). На, табе! Хата чужая, баба чужая, а заместа майго ўласнаручнага сына—нейкае спаднічнае стварэньне! Вось так папаўся у нерат—ні ўзад, ні ўперад! Ну, Максім! Ламі мазгі, каб не прапаў саўсім.

Даміцэля (прыгледзеўшыся). Ды гэта-ж наш кум—Максім Кутас!

Кацярынка. Ха-ха-ха! Татка на дзядзьку Максіма перакуліўся! Ха-ха-ха! Тата ваўкалак, ваўкалак!

Максім (ахіліўшыся бравэркай, садзіцца на ложку). Што я бачу? Гэта-ж Трахімава хата і яго баба! (Да Даміцэлі). А мая-ж Даміцэлька! Ці ня ведаеш, якім-такім манерам я сюды папаўся?

Даміцэля. Я зараз манеры выганю васпану з галавы! Дзесятаму закажаш, як чужых

жонак поначы ашуківаць. (Ідзе ў качарэжнік і бярэ мешалку).

Кацярынка (у бок). Быў адзін тата, а цяпер аж два! (Да Максіма). Мусіць, дзядзька, сягоньня кепска з мамкай вянок на каптур гандляваў, дык яна хоча прыдатку даць.

Максім (чухаючы галаву). І ўпутало-ж мяне нядобрае ў гэту авантуру! Яшчэ з гэтай бабай можа і дам як колечы рады, але што будзе, як мая Паланея ды Трахім даведаюцца? А тут яшчэ гэты, як на безгалоўе, „Страшны Суд" вісіць на сьцяне! (Да Даміцэлі). Кумачка, Даміцэлька! Кінь ты гэту мешалку: я сваей маю аж вось пакуль! (Паказвае на шыю).

Даміцэля (прыступаючы к Максіму з мешалкай). Я цябе пытаюся: чаго ты ўбіўся у чужую хату? Га?

Максім. А я ў свацьці пытаюся: чаго я ўбіўся у чужую хату?

Кацярынка. Ха-ха-ха! А я ў мамкі і дзядзькі папытаюся, чаму у мяне цяпер два таты?

Даміцэля (чуць не галосячы). А Божухна мой, Вацюхна! І собіла ж, каб гэтакае ліхо ні за што, ні пра што звалілося на маю галаву?! Гэта-ж, як даведаюцца на сяле,—на вуліцу нельга будзе паказацца: вочы заплююць. Ды яно і варта: маю, дзякуй Богу, свайго чалавека хоць у гадох, але хай так яшчэ і малады дакажа: дачку аддавай хоць у пятніцу замуж, а тут на, табе!—гэты чорт! І каб я хоць пальцам на яго калі кіўнула. (Трасучы мешалкай). І-і! Лабідуда няшчасны! Чаму ты, ідучы сюды, галавы сабе не зьбяёдаў, або кастылёў сваіх не павыкручаваў?!

Максім Чаму лепей мяне маці малога, у начоўках купаючы, не ўтапіла, чымся я меў дачакацца гэтакага сораму? Сам я, дзякуй Богу, не маладзёначак,—сын ужо каля дзевак юрыць, ды свая кабеціна яшчэ ня зломак, хоць не раўнуючы палі забівай, а тут на, табе! Яшчэ гэта з мешалкай ведзьма Кіеўская!

Кацярынка (у бок). Ужо мы з Мацейкай сваякі!

Даміцэля. Што я скажу—як даведаецца—свайму Трахіму?

Максім. Куды я дзенуся—як даведаецца —ад сваей Паланеі?

Кацярынка (у бок). Як гэта, я пасьля такога сваяцтва, буду цалавацца з Мацейкай?

Даміцэля (з рызыкай). Гэта ты ўсё, гад, навырыў гэтай саладухі, каб цябе зямля не насіла, абібок праклятьі! Бязсорамнік! А яшчэ—кум! Хоць-бы пайшоў, злыдзень, дамоў у сваеі пары, каб мае і людзкіе вочы вя бачылі!

Максім. Ня я, а ты, ведзьма, вінавата! Нарабіла пекла і маёй і сваёй хаце, ды яшчэ рызыкуе. На што пусьціла на свой ложак, калі бачыла, што гэта я—не я?

Кацярынка (у бок). Шкода, што мамка дзядзьку падсаджавала!

Даміцэля (заламаўшы рукі, сьлязьліва). І што тут рабіць, што чыніць? Ня будзе ўжо мне жыцьця з Трахімкам, на векі вечныя—ня будзе! Прапало мае сумленьне кабечае, за німашто прапала! Асталася адна сьцежка-дарожка: пайду утаплюся, ды ўсё тут! Хай мяне ўжо цяпер халодная вадзіца галубе, а ня мой саколік, Трахімка. (Плача абапёршыся на мешалку).

Максім. Страшны суд будзе дома, ох, на ўсё жыцьцё мае страшны! Не зазнаць ужо мне на векі вечные дабра і спакою са сваей Паланейкай. Які я цяперака к чорту муж яе? Як там ня было, а ўсё такі пражыў век паводле боскага прыказаньня, хоць мо' і былі якіе грашкі тайные, але не такіе-ж ужо яўные! А цяпер... цяпер адно збаўленьне асталося для сьвятога яе і майго спакою: дзяга ёсьць, пайду і павешуся. Хай пятля раменная маю шыю абыйме заместа ручак цёплёнькіх маей Паланейкі. (Зьвесіў галаву і задумаваецца).

Кацярынка (у бок). На, табе, баба, груцы з бобам! К нашаму сваяцтву з Мацейкам прыбудзе яшчэ жалоба.

Даміцэля. Нічога такі іншага ня выходзе: пайду тапіцца! Апошніе мінюты прыйшлі майго жыцьця. (Да Кацярынкі). Як прыдзе татка, то скажы, дзеткі, што ўтапілася вось праз гэтага... Дзе мая толькі хустка? (Шукае хусткі).

Максім. Няма інакшай рады: пайду павешуся. Апошні канец на мяне прыйшоў. (Да Кацярынкі). Як убачыш, Кацярынка, маю Паланею, дык скажы, галубка, ей, што я павесіўся вось праз гэту... Дзе толькі мая шапка? (Шукае шапкі).

Даміцэля (закручваючы хустку). Бывай здарова, дзеткі! Кланяйся тату! (Хоча выходзіць).

Максім (надзяваючы шапку). Бывай здарова, Кацярынка! Кланяйся маёй Паланеі! (Хоча выходзіць).

Кацярынка (у бок). Я думала, што яны жартуюць, ажно такі папраўдзе шукаюць гуза. (Забягаючы ад парога, да Максіма і Даміцэлі). Што гэта вы? За ноч клепкі ўсе ў галаве пагублялі? Мала аднаго граху, дык, хочаце яшчэ другі на душу браць! Вось лепей пеміркуецеся ды думайце, як з гэтай бяды выкараскацца, каб воўк быў сыт і каза цэла. Сьнеданьне на стале застыне, зглуміцца, а яны скарэй вешацца, тапіцца! Калі ўжо так ня хочаце мірыцца, то хоць бяз міру пад'ешце, тады і работа складней пойдзе, як пацяжэеце. А памойму лепш не сьмяшэце людзей, і ўсё тут!

Даміцэля. А мо' і праўду кажаш, Кацярынка? Што ты, кумок, на гэта?

Максім. Ды і памойму, свацейка, гэтак лепей будзе. У жываце маім ужо даўно салаўі пяюць. Пасьнедаем, а там...

Даміцэля. Такі-ж, пасьнедаем, а там...

Кацярынка. А там мамка новы каптур пашые для таты, а дзядзька новую мешалку зробе для цёткі. (Усе садзяцца за стол і сьнедаюць).

Даміцэля (пакручаваючы скваранду). Вось, кумок, з гэтага боку лепшая скварка! Не саромся, бяры і еж на здаровейко!

Максім (пакручаваючы скварнду). Ня турбуйцеся, кумка! Лепей ты яе бяры. Мне пасьле учарашняга неяк ні сёе, ні тое. Адным словам, праўду свацьці скажу: залішне выпіў.

Даміцэля. Праўду, кумок, кажаце! Я сама гэта заўважыла, што трохі слаб быў на нагах. Куму пахмяліцца-б ня шкодзіла.

Максім. Сам анел-пацешыцель падсказаў кумцы гэту думку! Усё роўна як-бы ты, Даміцэлька, у маёй душы сядзела і падслухала, чаго ёй хочацца.

Даміцэля Ай! Уто-ж я дурная! Гэта-ж і ёсьць чым чарвячка замарыць! Мой учора з прычыны першага дня Сёмухі, прызапасіў паўквартачку, каторай з палавінку выпіў, а рэшту асталося. Прынясі ты, Кацярынка, пляшку і чарку: там—у лыжачніку—знойдзеш.

Кацярынка (прыносячы паўквартоўку і чарку. У бок). Вот і салодкую гарэлку будзем піць!

Даміцэля (наліваючы і падсоваваючы чарку Максіму). Выпі, кумок, каб на сэрцайку палягчэло! Я-ж дык і з роду ня піла і ня пью.

Максім. А мая Паланея часам любіць пацягнуць. (Выпіваючы). За тваё здароўе, кумка, і тваё, Кацярынка! (Маргаючы да Даміцэлі). Можа-ж некалі сваяўство якое завядзём. У мяне—Мацейка, у цябе—Кацярынка, а там (штурхаючы Даміцэлю у бок), як ведаеш, кумка, і да царквы недалёка.

Даміцэля. Яно-ж так! Што каму суджано, дык і нехатой таго не абойдзеш, і з канём не аб'едзеш. Што-ж? Мая Кацярынка, як сам, кумок, бачыш, нікому ня ўступе і з розумам і з рукамі.

Кацярынка (закручаваючыся хвартухом). А я яшчэ замуж не хачу, і Мацейка, я ведаю, жаніцца ня хоча!

Максім. А я нешта другое заўважыў па табе і па Мацею там, у садзе. Помніш? Ха-ха-ха! Засаромелася!

Даміцэля. Трэбыло, кумок, кіем даць хлуду добра аднаму і другому. Занадта рана пачалі ўжо нюхацца з сабой. Яшчэ малако матчыно на губох ці абсохло.

Максім. А, кумка, помніш, як мы гэта калісь... у поле яшчэ ганялі... Хэ хэ-хэ!

Даміцэля. Ужо, кум, выпіў чарку, і пачаў брахаць. Скажу Паланеі!

Максім. Толькі, кума, перш мешалку ад яе адкрадзь.

Кацярынка (у бок). Але дзе-ж гэта прапаў мой першы татка?

Даміцэля. Што ты кажаш?

Кацярынка. Я кажу, дзе падзеўся тата наш?

Даміцэля. А такі-ж праўда: дзе ён падзеўся? Гэта ўсё кум мне нарабіў! Як загаварылася дык і на свайго забылася.

Максім. Ды і я тут пры куме задлякаўся, а мая Паланейка недзе даўно прачакалася.

Даміцэля. Зьямо, кумок, ды пойдзем: я шукаць свайго Трахімкі, а ты сваей Паланейкі. Ужо я раздумалася: не пайду тапіцца: вада яшчэ такая халодная.

Максім. І я ўжо раздумаўся: не пайду вешацца: дзяга яшчэ парвецца.

Кацярынка. І я раздумалася: пайду замуж за Мацейку, а то чаго добрага пасьля адрачэцца.

Даміцэля. Бач ты яе. чаго захацела А пацеры умееш?

Максім. Нічога, кумка! Пацеры ня воўк—у лес не зьбягуць. А мой Мацейка—хлопец хоць-куды! Яна смак чуе ў ім.

Даміцэля. Ну, кум, ізноў пачынае сваё! Выпівай ды ідзем ужо. Дзе мая толькі мешалка?

Максім (выпіўшы). Ідзем, кумка. Удваіх усё такі сьмялей крыху. (Выходзяць; Даміцэля—з мешалкай).

(Канец будзе).

*Я. Купала.*



Веска у Мазыршчыне.

## ДРОТ.

Скрозь па дарогах, па палёх,
На ўсход і на заход,
Як вокам скінуць, на слупох
Заведзен доўгі дрот.

Ці дзень, ці вечар настаець,
Як арфа, як фагот,
Усё іграець і пяець
Без перастанку дрот.

Ці сьвет засьцелецца імглой
У час асеньніх слот,
Вядзе размову сам з сабой,
Гудзець-іграець дрот.

Пад небо плыў пажараў дым,
І людзі йшлі ў паход
Вайна грымела, і аб тым
Гаворыць казкі дрот.

Паціхлі стрэлы ўжо гармат,
Даўно змоўк кулямёт,
І над магіламі салдат
Ціхенька плача дрот.

Шмат асталося у бядзе
Калекаў і сірот.
Аб гэтым гутарку вядзе
Па белым сьвеце дрот!

**Ст. Шыманоўскі.**

# Натхненьне і гармонія,

## К 3-яй гадаўшчыне сьмерці М. Багдановіча. (✝ 25/V — 1917 году).

Хараство—гэта ёсьць крыніца жыватворных чараў, якая з першых атомаў жыцьця пад сонцам, з першых расьлін на зямлі, хмарак пад небам, сьпеваў птушак над лугамі, грацыйных скокаў тыгрыса ў трапічных лясох пачала зьвяртаць на сябе увагу і палоніць сабою ўсіх болей-меней сьвядомых істот.

Хараство,—дачка сонца, царыца неба і зямлі,—з усьмешкай сфінкса цэлые тысячалецьці пазірало на сваіх жрацоў—людзей, якіе шчыра служылі яму, творачы гымны і малітвы ў розных кшталтах і постацях зыкамі, лініямі, фарбамі і словамі.

А чым болей людзі разумелі тайны хараства, тым болей шчасьлівые былі яны. Чым глыбей яны ўнікалі ў дзіўную гармонію ўсясьветнасьці, тым болей іх душы і сэрцы палалі бязсьмертным агнём натхненьня.

Захопліваючыся залатым тэстамэнтам прыроды, выбраные людзі тварылі асалоду ў жыцьці, рай на зямлі, маючы сваёй мэтай тлумачыць людзкім масам зьявішчы хараства ў даступных формах—у музыцы, на камені, на палатне, ў поэзіі.

Жрацы хараства адкрывалі людзям яго таемнасьці, паказваючы ім яго творчасьць усюды, каб ачысьціць гэтакім чынам людзкіе душы, падняць іх на скрыдлах натхненьня да нябёс, каб яны парабіліся лепшымі і сьвятлейшымі. Мастацтво ёсьць той сьвяты хорам, каторы асьвятляе жыцьцё парываньнямі к дабру і праўдзе, будзіць сьвядомасьць і руйнуе нізкіе інстынкты ў сэрцах людзкіх.

Сьветлай сьцежкай ішлі да людзей прарокі хараства пакаленьне за пакаленьнем, век за векам, тысячалецьце за тысячалецьцем, убіраючы залатую карону багіні хараства сваімі творамі—агняцьветнымі каменьнямі, каторые зьяюць у небе творчасьці чалавечага гэнія, як Млечны Шлях сярод неба.

Кожны народ паасобку меў сваіх лепшых людзей, каторые служылі хараству шчыра і набожна, каторые сваімі натхнёнымі творамі авекавечылі свой народ.

Адным з шчырых жрацоў хараства, з сьвятлейшых людзей нашага народу быў і наш поэт чыстай красы, Максім Багдановіч. За кароткі час сваей творчасьці ён выведаў тайну гармоніі, вывучыў хартыі роднай красы і вянкамі вясновых поэтычных кветак аздобіў ніву беларускага адраджэньня.

Азнаёміўшыся з вялікім кветнікам усясьветнай поэзіі ад старадаўніх клясычных часаў па сягоняшні дзень, Багдановіч навастрыў сваё поэтычнае пачуцьцё, ўзбагаціўшы родную нацыянальную поэзію новымі формамі, новымі гармоніямі, фарбамі, образамі і мэлёдыямі. Ён умеў знаходзіць фарбы там, дзе другіе праходзілі міма, нічога ня бачачы.

На беларускай ліры ён выпрабаваў розные тоны, розные акорды поэзіі, паказваючы гібкасьць і мэлёдыйнасьць жывой беларускай мовы, на якой можна выказаць самые чуць улаўляные размаітнасьці думак і пачуцьцяў.

У сваіх творах М. Багдановіч часта выказаваў свой погляд на красу і поэзію.

Усюды ёсьць хараство—ў вясновым красаваньні дрэваў, у сініяскрыдлым матыльку, ў залатых струнах сонца, у шэптах ветру, ў шуме чароту ля рэчкі, ўсюды...

Песьня рвецца і ліецца
На раздольны, вольны сьвет.
Але хто яе пачуе?
Можа толькі сам поэт.

Бо людзі заняты сваімі будзённымі справамі жыцьця. Пачуцьці ў іх агрубелі штадзеншчынай. Яны ходзяць па дарагіх скарбах, як па простых каменьнях, не прыкмячаючы іх, і толькі адзін поэт, каторы аддаецца ўвесь служэньню музам, гэта ўсё бачыць і адчувае:

Бачу я, з прыродай зьліўшыся душой,
Як дрыжаць ад ветру зоркі нада мной,
Чую ў цішы як расьце трава.

І толькі, калі чалавек зьліваецца з хараством прыроды, ён знаходзіць сваё шчасьце і свой супакой:

* * *

Падыймі угару сваё вока
І, ты будзеш ізноў, як дзіця,
І адыйдуць—адлынуць далёка
Усе трывогі зямнога жыцьця.

Ціха тучу блакіт закалыша,
У душы адрасьце пара крыл,—
Узьляціць яна ў сінюю вышу
І ў струях яе змые свой пыл.

Там ня трэба ні шчасьця, ні ласкі,
Там няма ні нуды, ні клапот.
Ты царэвіч цудоўнае казкі,
Гэта хмара—дыван-самалёт!

Поэт на гарне сваей душы пераковавае, як той казачны алхімік, камень на золата. Душа поэта адбівае жыцьцё ў розные колеры, як вясёлка пад сонцам. І такім чынам:

Калі ў дух мой западзе і заварушыцца
Там кавалак грубага жыцьця,—
У жэмчуг зьвернецца ён сілай пачуцьця.

Чалавек можа толькі тады быць поэтам, калі душа яго пранікнута хараством да самазабыцьця, да самаахвярнасьці, калі душа яго гарыць на сваім уласным агні, як той матылёк, каторы ляціць на агонь, зачараваны красой, ня думаючы аб сваёй гібелі:

Сьвяча гарыць. З яе ліецца
За кропляй кропля, як раса,
А матылёк ужо ня бьецца:
Табе ахвяра ён, краса!

У сваім „Апокрыфе“ М. Багдановіч у пекнай форме выказавае свой погляд на хараство і на яго практычную карысьць:

11. Штадзённымі клопатамі поўна людзкое жыцьцё. Але калі зварухнецца душа чалавека, толькі песьня здолее спатоліць яе. Шануйце-ж песьні свае.

12. Бо сьпяваюць навет жабы ў багне.

20\. . . . . Няма Красы без спажытку, бо сама краса і ёсьць той спажытак дзеля душы.

У „Мадоннах“ — дзе поэт паміж няпрыкметнымі здаецца, абразамі дзяўчынкі дзіцяці і дарослай дзяўчыны прыкмячае лік Маці Божай, твор вялікага Рафаэля,—Багдановіч кажа а бязьмежнай сіле характва, каторая ачышчае душу ад звычайных інстынктаў, даючы ёй найвялікшае духоўнае шчасьце:

. . . . і ў гэты час яна,
Здавалося, была аж да краёў паўна
Якойсьць шырокаю, радзімаю красою,—
І, помню, я на міг пахарашэў душою.
Або:
І прад высокаю красою,
Увесь зачараваны ёй,
Скланіўся я душой маёй
Натхнёнай, радаснай такою,
А ў сэрцы хораша было,—
Там запалілося цяпло.

Краса дае шчасьце і натхненьне, але натхненьне без гармоніі не дасягае мэты. Дарагі камень цэніцца подлуг сваей ашліфоўкі. Зычная арфа бяз кемных пальцаў не дае цэлай мэлёдыі.

Усё павінно быць у мастацтве срога апрацовано. Гэты срогі закон мы бачым навет у прыродзе, дзе кожная маленькая, скромная кветка прыгажэй у шмат разоў багатага хораму Салямонавага. Хаотычнае накіданьне пекных слоў, вобразаў бяз сыстэмы, без апрацоўкі, бяз цэльнасьці ня маець патрэбнага уплыву на людзей.

У поэзіі, апрача душы—натхненьня, павінна быць і голае цело—добрая тэхніка. І вось Багдановіч у цудным вершы з васьмёх радкоў зьвяртаецца да маладога песьняра з навучаньнем, як пісаць вершы:

Ведай, брат малады, што ў грудзёх у людзей
Сэрцы цьвёрдые быццам з каменьня.
Разабьецца аб іх слабы верш заўсягды
Ня збудзіўшы сьвятога сумленьня.

Трэба з сталі каваць, гартаваць гібкі верш,
Абрабіць яго трэба з цярпеньнем.
Як ударыш ты ім,—ён як звон зазьвініць,
Брызнуць іскры з халодных каменьняў.

Тут уся мудрасьць аб карысьці добрай тэхнікі вершаў. Гэта ёсьць словы праўды аб поэзіі практычнага настаўніка, сказаные проста, коратка, пекна і вобразна. Кожны малады, пясьняр, прачытаўшы іх, пэўне, адкіне большую часьць сваіх спробных твораў і сьвядома пачне апрацоваваць вершы свае і пачне глядзець на мастацтво непамылкова.

Ва ўсіх творах Багдановіча чуецца старанная, строгая апрацоўка, багацьце і разнаітасьць вобразаў і формаў, вялікая краса і глыбіня думак. У сваіх кароценькіх вершах ён куе родную красу і торыць дарогу для другіх беларускіх поэтаў.

**З. Бядуля.**

## Будзь здаровы, бацька, маці...*)

(На мэлёдыю: У печы палю, бульбу жару...).

Перадрук забараняецца.

*Будзь здаровы, бацька, маці,—*
*Мы пайшлі ўжо ваяваці.*
*Сьвішча куля, йяй-ха-ха!*
*Каля вуха дзяцюка.*

*Што за доля, што за воля—*
*Жаўняроньку выйці ў поле!*
*Сьвішча куля... і г. д.*

*Нам няўцям віхры, грымоты,*
*Дадае нам гром ахвоты.*
*Сьвішча куля... і г. д.*

*Днём ваюем, ночкай дрэмем,*
*А што блізка вораг—кемім.*
*Сьвішча куля... і г. д.*

*Сьпім на ўзьмежку пад ігрушай,*
*Дожджык моча, сонцо суша.*
*Сьвішча куля... і г. д.*

*Есьць, ці—не, хлеб і да хлеба,*
*І бяз хлеба знойдзем небо.*
*Сьвішча куля... і г. д.*

*Мы—ваякі, забіякі,*
*Сьцеражэцеся, ламакі!*
*Сьвішча куля... і г. д.*

*Камандзер наш знае дзело,—*
*Ён на ворага йдзе сьмела.*
*Сьвішча куля... і г. д.*

*Паваюем, пагаруем,*
*Зато дома запануем.*
*Сьвішча куля... і г. д.*

*Запануем, як і людзі,*
*У хату вораг лезьць ня будзе.*
*Сьвішча куля.. і г. д.*

**Янка Купала.**

*) Праз недагляд карэктара, у № 4 «Руні» гэтая песьня выдрукавана ня уся.
Рэд.



Першые беларускіе курсы для настаунікау у Менску.

## Пралескі.

*Да Е. К.*

Прынесьлі вы чароўные дары вясны—пралескі
У добрасьці сьвятой іх для мяне сваім зрабіўшы дарам,
Як колер гэтых кветачак, так домысл Ваш—нябескі,—
Прыйсьці, парадаваць вясной мяне ў маім замкненьні шарым.
Зрабіўся мой пакой цяпер—пудэлак цесны мескі—
Тайгой шумячаю на шчыце гор, ў паблізку к сонцу, к хмарам,
Ляжу у ёй, хваін жывушчы пах пьючы і горных зёлкаў.
А ў думках і ў ваччу—прасьлічная, паўночная фіёлка.

*А. Гарун.*

## МАТЫЛІ.

*Помню хлопчыкам маленькім*
*Падабаў я зелень ніў*
*І на пожні, каля рэчкі*
*Матылёў лавіць любіў.*
*І у гульнях і забавах*
*Дзень за дзень міналі ўсьлед*
*Ды у ночку на Купальле*
*У лес шукаць бег агняцьвет...*
*А цяпер, калі шукаю*
*Праўды, шчасьця для людцоў,*
*Ці ня тое-ж дзіцянё я,*
*Што лавіло матылёў?*

**Ул. Ж.**

Проф. Е. Карскі.

## Сьвятые Юр'я, Мікола і Ільля у беларускай народнай абраднасьці і песьнях.

Спаміж хрысьціянскіх сьвятых найболей популярные ў беларускім народзе Юр'я, Мікола, Ільля і Ян. З днямі успамінаў іхніх імёнаў зьвязаны розные абрады, якіе маюць свой пачатак троху ў хрысьціянскай, троху ў паганскай веры; гэтым сьвятым даецца ня мала месца і ў песьнях, прысьвячаных ім. Гэтым сьвятым народ даручае працу у часе росту збожжа, дагляданьне ўраджаю і абарону палёў і жывёлы і гэта найбольш выяўляецца у спэцыяльных беларускіх валачобных песьнях, дзе гэтые сьвятые заўсёды выступаюць разам (Шейнъ, Матеріалы, I, I. 138);

Сьвяты Юры па лугу ходзіць,
Па лугу ходзіць, коні пасець...
Сьвяты Мікола па межах ходзіць,
Па межах ходзіць, жыто родзіць...
Сьвяты Іван ды памагаець,
А сьвяты Ільля зажынаець
Залатым сярпом...

Або (Записки Геогр. Общ. по отд. этногр. V, 367) хочучы пахваліць заможнага гаспадара, народ малюе такі абразок: па яго гаспадарцы

Прачыстая маці па похаце едзець
Васьмі каньмі ды ўсё варонымі,
Трыма слугамі, ды ўсё вернымі:
Сьвяты Ягор'я на козлах сядзіць,
Сьвяты Ільля на запятках стаіць,
А сьвяты Мікола пасрадзі яе.
Пад'яжджаюць яны к чэстнаму мужу...

Адкладаваючы да другога разу гутарку аб Іване, цяпер затрымаемся на Юр'і, Міколе і Ільлі.

I.

З днём Юр'я, каторы ў беларусаў часам называецца Ягорам*) зьвязаны некалькі абрадаў і песьняў, якіе адносяцца да гадоўлі жывёлы і земляробства.

У гэты дзень (23 красав. ст. ст.) першы раз выганяюць жывёлу на траву, паводле звычаю, вярбою, пасьвенчанай у Вербную нядзелю. Пры гэтым жывёлу часта акурываюць сьвенчанай травой або ладанам; часам пры гэтых абрадах ужываюць яшчэ яйкі, якіе закопаваюць, або проста кладуць ля парогу хлева, каб жывёліна пераступіла праз іх і дзе-ня-дзе перад парогам хлева засьцілаюць кажух воўнай ўверх і закручаваюць у яго кусок хлеба*). Усё гэта, паводле народнай думкі, робіцца дзеля таго, каб абараніць жывёлу ад дзікага зьвера і наагул ад згубы. Гэтые абрады мелі так сама ачышчаючае значэньне. На пачастунак пастухом даюцца яйкі, малако, сыр, хлеб і інш., з чаго пастухі ладзяць сабе сытны баль, пры чым яешню з належнымі абычаямі абносяць спачатку навокал стада, кажучы закляцьці проці дзікіх зьвяроў, часам у форме праўдзівых загавораў. Гэты баль пастухоў ёсьць, безварункова, адгалоскам даўнейшых прыносін ахвяр у чэсьць паганскага бога, абаронцы жывёлы. У нашага народу гэты бог зьмешаны з сьв. Юр'ям, які і лічыцца абаронцам жывёлін; ён кіруе і дзікімі зьвярамі: беларус верыць, што воўк забірае з стада тую жывёлу, на якую даў яму дазвол сьв. Юры, дзеля гэтага будзе навет грахом адыймаць у воўка здабычу. Ваўкі ня толькі слухаюць Юр'я, але на іх ён навет жывёлу абьяжджае. Гаспадары моляцца Юр'ю тады, калі карова заблудзіцца і заначуе на пашы. Беларускі духоўны народны верш, падобны ў гэтым разе да велікарускага, мае такі эпізод у сказе аб сьвятым Юр'і, аб'ясьняючы яго ўладу над жывёлінамі (Ром. V, 314):

Наяжджаець Ягоры к трэцьцяй заставе...
Зьвяры з зьвярамі сыбегаліся—
Не прайці Ягор'ю, не праехаці...
Там хвабры Ягоры праглаголюваў:
„Зьверы вы, зьверы, зьверы шэрые,
„Разьбяжыцеся, разыйдзіцеся,
„Па два, па тры, па адынаму,
„Піце-ж вы, ежце пазваленае,
„Што хвабры Ягорыя вам пазволіць..."

2) Юры ў народным выабражэньні ёсьць і абаронцам працы земляроба, ў чым так сама заменяе якогасьці паганскага бога, якога сьвяткава-

*) Абодвы гэтые імены зьвязаны з грэц. Geórgios.

*) Гл. «Бѣлоруссы», III, 1, стр. 161 і далей.

лі вясной. Беларуская валачобная песьня вось як характарызуе Юр'я (Крачкоўскі, 108):

Сьвяты Юры, Божы пасол,
А ўзяў ключы залатые,
Адамкнуў зямлю сырусенькую,
Пусьціў расу цяплюсенькую
На белы сьвет і на ўвесь свет.

Аб тым жа пяецца і ў песьні на Юр'я (там-жа 116):

Юры, уставай рана!
Адмыкай зямлю,
Выпушчай расу
На цёплае лето,
На буйнае жыто,
На ядраністае,
На каласістае.
Людзям на здароўе...

Знача, пасьля зімовага сну „адмыкае“ зямлю Юр'я; ён-жа выпускае і расу, якая вельмі карысная для ураджаю і наагул для здароўя. Дзеля гэтага ў розных мясцох славянства качаюцца па расе дзяцюкі і дзяўчаты, каб быць ўвесь год здаровымі.

Шмат дзе ў песьні аб адмыканьні зямлі яшчэ успамінаецца маці сьв. Юр'я (мой запіс):

Да на гары, да на высокай
Ды Юры матку кліча:
„Ды падай, матка, ключы,
„Сыру зямлю адамкнуці,
„Ды выпусьціць расіцу
„На лён, на пшаніцу,
„На ўсякую пашніцу“.

Юр'я просіць ключа ў сваей маці і ў некаторых украінскіх і ў чэскіх песьнях; у апошніх яна называецца Марыяй, Моржэнай і г. д.

У гэтай Юр'явай маці відаць спутаны разам хрысьціянскіе сьвятые і навет сама Багародзіца з паганскім выбражэньнем аб сьмерці і зіме.

З іншых Юр'яўскіх абраднасьцяў, якіе адносяцца да земляробства, ад'значым абход палёў (часта па усходу сонца) з хлебам, сольлю, яйкамі і касьцьмі з таго мяса, што сьвянцілі на Вялікдзень. Косьці закопаваюць на мяжы свайго поля. Сьвянчаную вярбу, якую часам носяць з сабою, ўтыкаюць у зямлю. Усё гэта робіцца дзеля таго, каб сьв. Юр'я усьцярог ніву ад граду. Паміж іншым, у некаторых мясцох гэта абьясняюць інačай: поле абходзяць дзеля таго, каб паслухаць, аб чым гамоніць жыто, які будзе ураджай. Навучыў так рабіць адзін бацька, якога сын схаваў у склепе ад сьмерці, на якую засуджвалі ўсіх старых, дажыўшых пэўнага веку (Крачкоўскі, 118). Гэта ўвага вельмі напамінае адзін эпізод з усходняй аповесьці, даўно занесенай сюды, аб Акіры Прамудрым, дзе царскі дарадчы, які загнявіў цара, быў выратаваны такім-жа чынам.

3) Урэшце, да Юр'явага дня дапасовано некалькі абрадаў і песьняў, якіе адносяцца да карагодных і к замужаству дзяўчат. Дамо адну з іх, запісаную яшчэ у пачатку XIX в. (Безсоновъ, 23 № 35), дзе ўпамінаецца Юр'я:

На гарэ новы двор,
Разыграўся Юр'яў конь,
Разьбіў камень капытом:
Як у камені ядра нет,
Так у дзяўчат праўды нет.

На гарэ новы двор,
Разыграўся Юр'яў конь,
Разьбіў гарэх капытом:
Як у гарэсе ядро ёсьць,
Так у дзяцюкоў праўда ёсьць.

Тут прытычкі да дзяцюкоў і дзяўчат як і ў шмат іншых вясновых песьнях, аб чым мы скажам у другі раз.

II.

Абраднасьці дня на сьв. Міколу (9-га мая ст. ст.) падобны да Юр'явага дня. Яго сьвяткуюць „канюшкі“, якіе вядуць каней на начлег. У гэту ноч яны абкурываюць каней іванавай травой і абходзяць вакол іх з яйцом у руцэ, якім гладзяць коней па крыжу. Усе гэта робіцца дзеля абароны коней ад хвароб, нячыстай сілы і зладзеяў (Романовъ, VIII, 190).

Мікола, паводле народнага выбражэньня, мае так сама адносіны і да земляробства. У валачобных песьнях нярэдка ёсьць падобные вось да якіх (Ром. VIII, 167):

Па тваей ніве сам Бог ходзе,
Сам Бог ходзе, пяць асоб водзе:
Першая асоба—сьвяты Юры,
Другая асоба—сьвяты Мікола...
А сьвяты Юры сы расіцаю,
Сы расіцаю жыто заражае.
А сьвяты Мікола з шаўковай травой,
Шаўковай травой скот напасае...

Другую падобную песьню мы паказалі раней. У вадной вясновай песьні (Ром. I-II, 268 № 19) пяецца:

Сьвяты Юр'я з расіцаю,
Сьвяты Мікола з севалкай у поле...

Народ кажа: Юр'я сказаў: жыто ураджу і Мікалай адказаў: падажджы, пагляджу“ (Крачкоўскі, 120). Такім чынам і Мікола як-бы мае адносіны да земляробства. Каля гэтага часу звычайна засяваецца поле і перастаюць пасьвіць жывёлу па сенажацях. Народ верыць, што сьвяткаваньне Міколы бароніць ад граду. Знача і на сьв. Міколу перанесены некаторые азнакі паганскага бога, якога сьвяткавалі вясной. Пэўна, не бяз уплыву такога сьветагляду улажылі і духоўны верш у чэсьць Міколы (Крачкоўскі, 120):

Ой хто, хто Мікалая любіць,
Ой хто, хто Мікалаю служыць,
Таму сьвяты Мікалае
На ўсякі час памагае!
Яму служыць, яму служыць
Сонцо, месяц,
Удні, уночы
Непрастанна!..

Падвойным характарам, як выяўляюць сабе беларусы, вызначаецца так сама і чыннасьць сьв. Ільлі прарока. Вядомае біблійнае апавяданьне аб тым, як яго жывога ўзялі на небо, куды ён падымаўся на вогненай калясьніцы, паслужыло прычынай для злучэньня яго з паганскім богам-грамавіком Пяруном, каторы істнуе яшчэ ў беларускай мове ў значэньні маланкі. Грукат грымотаў і тлумачаць, як язду Ільлі на калясніцы па небе. Ільля спаліў нябесным агнём і ахвяру жрацоў Ваала. У некаторых мясцох з старадаўняй наіўна-

сьцю яму прыносяць тые ахвяры, якіе прыносілі Пяруну.

З другога боку ў калядных, шчадроўскіх і валачобных песьнях Ільля фігуруе, як абаронца землятробства, жывёлы і наагул сельскай гаспадаркі. Юры адмыкае зямлю, выпускае расу. Мікола пакрывае зямлю травой і засявае поле; Ільля клапоціцца аб ураджаі. Да гаспадара, якога вяліча-юць у шчадроўцы, прышлі тры госьці: Ісус Хрыстос, „Паўло з Пятром“ і Ільля. А калі, подлуг песьні (Шейн, мат. I. I, 59—60), гаспадар захацеў іх пачаставаць, Ільлі ня было. Пайшоў шукаць яго сьв. Пятро і бачыць:

Ды ідзе Ільля замачыўшыся,
Замачыўшыся, зарасіўшыся.
Ой, гдзе-ж ты, Ільля, ой гдзе-ж ты хадзіў?
— Па полі хадзіў, жыцечка радзіў,
— Па бору хадзіў, пчолачкі садзіў...

Ураджай залежыць ад дажджу; і тут уважаць Ільлю за апякуна дажджу пабудзіло біблійнае апавяданьне аб тым, як Ільля выклікае з неба дождж. Троху загадачным ёсьць спосаб учыненьня ураджаю (Ром. I-II, 447):

Ходзе Ільля на Васільля,
Носе пугу плеценую, драцьвяную.
Гдзе пугай махне, там жыто расьце;
Гдзе ня бывае, там вылягае.

Калі падыходзе час зажынак (Шейн, М. I, I, 138),

... сьвяты Ільля зажынаець,
Залатым сярпом, правай ручкай.

Залаты серп, як і іншые гаспадарскіе прылады, што успамінаюцца ў народных песьнях, выходзіць з глыбокай старасьветчыны: у іх можна яшчэ бачыць адбіткі скіфскага сказу, запісанага Гэрадотам, аб тым, як з неба упалі гэтые прылады (зр. „Бѣлорусы“, III, 1, 112).

Той-жа Ільля, які клапоціцца аб ураджаі, так сама дапамагае плоднасьці жывёлін (Ром. VIII, 114):

Дзе-ж ты быў, Альля, дзе пахаджаваў?..
Па кашарах хадзіў, скот парадзіў,
Што у тых кашарах валы ды каровы,
Валы ды каровы, вараные коні...
На кашарах плодна...

Адносіны Ільлі да жывёлін так сама маюць сваю крыніцу ў Бібліі: успомнім, як гэтаму прароку вароны насілі хлеб і мясо.

У народных пагаворках ёсьць такі-ж самы пагляд на нашых сьвятых: Юр'я сказаў: жыто ураджу, а Мікалай: пачакай, пагляджу; Юр'я пасе кароў, а Мікалай коней; Юр'ява раса—ня трэба аўса; на Ільлю поўную печ хлеба нальлю і г. д

Ад рэдакцыі. Усе песьні у гэтай стацьці друкуемо не зьмяняючы слоў, але—паводле беларускай граматыкі, т. е. ня так, яны надрукованы у кнігах, на якіе ссылаецца проф. Карскі. Таго самага будзем прытрымлівацца у адносінах да беларускіх народных песень—і у далейшых стацьцях, заахвярованых нам праз паважанага профэсара.



З павіншаваньнем у паноу.

# Тэатр на вёсцы.

## Прадмова.

Тэатр мае вялізнае значэньне ў жыцьці кожнага народу, а асабліва народу, які будзіцца з доўгага сну нацыянальнай заняпаласьці. Гэтак у адраджэньні чэхаў, украінцаў тэатр сыграў вядомую ролю. пашыраючы нацыянальнае ўсьведамленьне паміж народных мас.

І ў нас—я веру—тэатр адыграе ня меншую ролю. Роднае слово, родная песьня, народные скокі на сцэне—будуць той іскрай, якая запаліць у душах любоў да ўсяго свайго роднага, беларускага. Чаго не патрапе зрабіць кніжка, газэта, прамова, таго дабьецца тэатр у лёгкай мастацкай форме нясучы ў народ ідэю адраджэньня і закаляючы сэрцы да работы на ніве нацыянальнага усьведамленьня.

Тэатр наш малады. Сёлета ў лютым была толькі дзесятая гадаўшчына тэатру эпохі нашага адраджэньня. Глянуўшы назад, бачым, што ў працягу гэтага часу шмат зроблена. Але самае цікавае і важнае дык гэта тое, што тэатр пачынае пускаць свае карэньні і на провінцыі, у заглохшых кутох нашае бацькаўшчыны,—ў вёсках, гдзе людзі, ня бачыўшы ніколі сапраўднага тэатру, самі нейкім дзіўным інстынктам, які піхае чалавека да мастацкай творчасьці, дадумаліся да наладжаваньня спэктаклаў.

Зусюль даходзяць весткі, што маладые вясковые дзяўчаты і хлопцы наладзілі ў школе, або у гумне ці ў пуні вясковы тэатр. Публікі сваей вясковай, ведама, зьбіраецца шмат, якая прагавіта ловіць кожнае чутае са сцэны слово. Няма дзіва. што гэтые спэктаклі маюць характар вельмі прымітыўны, бо чаго-ж можна вымагаць ад гэтага самароднага „тэатру“!

Хочучы дапамагчы маладым аматарам тэатральнага мастацтва, пастараюся падзяліцца з імі тым дасьведчаньнем, якое я здабыў сабе ў працягу маей колькігадовай працы. Калі мае рады хоць крыху дапамогуць вясковым тэатральным працаўнікам падняць сваю работу на вышэйшую ступеню мастацтва, калі прынясуць ім хоць крыху карысьці, аблягчаючы адразу сьцяміць

тое, да чаго маглі б дайсьці толькі пасьля колькі гадоў практыкі,—дык я буду рад, што заданьне маё споўнено.

Калі-ж гэтая праца шмат вас не навучыць, ня крыўдзьцеся на яе аўтора і толькі ацанеце яго добрые хаценьні служыць справе беларускага тэатру.

Што я мог, тое даў. Аддавайце беларускай справе кожны, што можаце, ня складавайце рук, ня гледзячы ні на якіе перашкоды, або няўдачы, а ваша вытрываласьць і ахвярнасьць зробяць тое, што наша культурнае жыцьцё ярка зазіхаціць ўсімі краскамі народнага духу і паслужыць на славу нашага АДРАДЖЭНЬНЯ.

## Саля.

Калі вы задумаліся наладзіць спэктакль, першай вашай справай будзе паклапаціцца аб адпаведным для тэатру памяшчэньні.

Калі ў вашым мястэчку, ці у вёсцы ёсьць доўгая саля, у якой хваце месца, каб збудаваць сцэну і памясьціць публіку, дык добра. Толькі памятайце, каб апроч дзьвярэй для публікі былі ў гэтай салі яшчэ дзьверы ў тым канцы, дзе вы маніцёся будаваць сцэну. За гэтымі дзьвярыма павінен яшчэ быць, прынамсі, адзін пакой, дзе артысты будуць апранацца і маляваць твары (грымiравацца).

## Сцэна.

Будаваць сцэну трэба гэтак: зрабіўшы крэпкіе драўляные казлы (падстаўкі), каторых адзін канец павінен быць крыху вышэйшы за другі, ставяць іх у тэй часьці салі, дзе мае быць пабудована сцэна (рыс. 1). Ніжэйшые канцы гэтых падставак ставяцца ў бок публікі. Робіцца гэта дзеля таго, каб сцэна была крыху пахіленай; тады яна выглядае вялікшай, чымсі ёсьцьузапраўды.



Рыс. 1.

Пасьля на гэтых падпорках трэба пакласьці дошкі гэтакай таўшчыні, каб ня гнуліся пад нагамі артыстаў і каб шчыльна даходзілі да ўсіх трох сьцен, акружаючых сцэну. Але перад тым, як прыбіваць да падставак дошкі, трэба абкруціць іх нечымсьці мягкім, каб дошкі пад нагамі ня скрыпелі.

Адлегласьць сцэны ад падлогі салі залежыць ад вышыні столі. Калі столь высока, тады і вышэй можна будаваць сцэну, калі-ж столь спушчаецца нізка, тады, ведама, нельга зашмат падымаць сцэну, бо артысты, стануўшы на яе, будуць дакранацца сваей галавой столі. Сярэднюю вышыню сцэны ад падлогі можам азначыць на $^{3}/_{4}$—$1^{1}/_{2}$ арш. Калі-ж ваша саля будзе такой нізенькай, што сцэны падняць вышэй падлогі нельга, дык нічога не парадзіш, прыдзецца іграць на звычайнай падлозе, не падымаючы сцэну ўгару, а суфлера паставіць за кулісамі; але гэта будзе дрэнна, дзеля таго што публіка, асабліва тая, што далей сядзіць, ня будзе добра бачыць артыстаў, бо тые, што сядзяць у першых радох, будуць іх засланяць сваімі галовамі.

## Суфлёрская будка.

Зрабіўшы падлогу сцэны, трэба падумаць аб суфлёрскай будцы. З гэтай мэтай робяць напярэдзе сцэны пасярэдзіне выраз для суфлёра (гл. рыс. 2). Будку можна рабіць паўкруглую з закругленым вярхом, або з кантаватымі сьценкамі (рыс. 3) У сярэдзіне ў будцы робіцца лаўка, на каторай сядзе суфлёр. Лаўка гэта павінна быць ніжэй, чымсі сцэна, бо сцэна—гэта для суфлёра стол, на якім ён кладзе кніжку або сшытак пьесы. каторую іграюць.




Рыс. 2.

Суфлёр будзе ўваходзіць у сваю будку с-пад сцэны, калі вышыня сцэны на гэта пазваляе, а калі сцэну зробіце вельмі нізка, суфлёра можна будзе ўпусьціць у будку праз сцэну зьверху, праз гэтую дзіру, якая паказана на рыс. 2.



Рыс. 3.

Верхнюю часьць будкі (над лаўкай) трэба абчапіць, або абіць у сярэдзіне чымсьці мягкім, напр. войлакам. Гэта робіцца дзеля таго, каб засланіць голас суфлёра ад публікі.

Зрабіўшы гэтак суфлёрскую будку, прыстаўляюць яе да сцэны і прымацоўваюць кручкамі, каб яна не перавярнулася.

Як кожны абраз ляпей выглядае ў раме, таксама і тое, што дзеецца на сцэне,-гэты жывы руховы абраз, будзе ляпей выглядаць, калі мы адзелім яго ад публікі рамай. Такая рама—гэта ёсьць: 1) зьнізу—закрыцьце той дзіры, якая зрабілася між казламі, як вы палажылі на іх дошкі, 2) зьверху— закрыцьце дроту, на якім будзе вісець заслона і—з абодвых бакоў—палосы, каторые будуць закрываць тые месцы, дзе пачынаецца дэкорацыя. (Рыс. 4).




Рыс. 4.

Усе гэтые засланкі можна зрабіць або з тоўстага палатна ці іншай тканіны, або, зрабіўшы адпаведнай велічыні рамы з дошчак, абіць іх тоўстай паперай (картонам).

## Заслона.

Аднэй з найважнейшых прыладаў ёсьць заслона, каторая скрывае ад вачэй публікі наладжываньне сцэны і, адчыніўшыся, дае публіцы прыемную неўспадзеўку, Ніякую пьесу немагчыма іграць, калі няма гэтай важнай прылады. Іграеце вы, напрыклад, такую драму, дзе аднаго з яе ге-

роўу на сцэне забіваюць. Што-ж тады павінен рабіць пасьля скончанага акту артыст, каторага „забілі"? Няўжо-ж ён павінен ляжаць на сцэне і чакаць, пакуль публіка разойдзецца дамоў? Бо калі гэты «нябошчык» устане і пойдзе разам з іншымі за кулісы, дык папсуецца ўсё ўражэньне ад пьесы і публіка замест таго, каб перажываць драму, шчыра разсьмяецца, як на найвесялейшай камэдыі. Ня ідзе тут аб тое, каб публіка верыла, што той, ці іншы ўзапраўды памёр на сцэне (у гэта верыць толькі дзіця, каторае першы раз прывялі ў тэатр), але ідзе аб тое, каб усьцерагчыся ўсяго таго сьмяхотнага, што аслабляе увагу да пьесы і псуе драматычны настрой.

Вось дзеля гэтага і шмат дзеля якіх яшчэ іншых мэтаў патрэбна заслона, за каторай скрываецца ад вачэй публікі гэты цікаўны, чароўны, таемны сьвет, якім ёсьць сцэна.

Самы просты спосаб устроіць заслону—гэта павесіць дзьве хвіранкі, якіе будуць ад сярэдзіны сцэны разсоўвацца і засоўвацца. Гэтые хвіранкі павінны быць на гладкіх кольцах прычэплены на роўным дроце, каб соўваліся лёгка і бяз шуму пры помачы дапасованых дзеля гэтага шнуркоў. Есьць людзі, якіе думаюць, што будзе вельмі прыгожа, калі заслону размаляваць хварбамі. На наш пагляд—усё лішняе ёсьць няпрыгожае. Найпрыгажэй выглядае заслона з простага шэрага палатна, а—калі хочаце,—дык абшытая ўнізе на $^{1}/_{2}$ арш. ад краю вузенькімі беларускімі паясамі. Не малюйце, калі ласка, на заслоне ніякіх пэйзажаў, ні хвігураў, пакіньце яе шэрай ці іншай, такой, як яна ёсьць і толькі старайцеся, галоўным чынам, каб ваша заслона лёгка без перашкодаў соўвалася па дроце, бо калі яна ня будзе, як сьлед, зачыняцца, калі замест таго, каб хутка яе зачыніць, вы будзеце прымушаны тармашыць яе і гвалтам цягнуць,—ня раз уся ваша цяжкая праца прападзе дарма, бо вам не ўдалося зрабіць тое, што хацелі: публіка замест таго, каб доўга памятаць уражэньне, вынесенае ад пабачанай пьесы, будзе сьмяяцца над вашай нялоўкасьцю.

## Сьвятло.

Калі у нас няма электрычнасьці, прыдзецца асьвятліць сцэну газавымі, або іншымі лямпамі. Найчасьцей, мабыць, будзеце карыстацца газаю, дзеля таго што газавые лямпы найлягчэй усюды дастаць.

Сцэну асьвятляюць зьверху, з бакоў і зьнізу. Дзеля гэтага устраіваюцца г. н. „рампы"—гэта такіе драўляные або бляшаные равочкі, у якіх памяшчаецца рад лямпачак. Рэформатары тэатру канца мінулага сталецьця (напр. А. Стрындбэрг) протэставалі проціў ніжняй рампы, кажучы, што сьвятло зьнізу ня мае ніякага сэнсу, бо гдзе-ж бачана, каб сьвятло ішло з зямлі, або з падлогі. Апроч таго—паводле іх—сьвятло зьнізу кідае на твары артыстаў ненатуральные цені, якіх у жыцьці ніколі мы ня бачым.

Але гэтые рэформы шырока не распаўсюджыліся. Памятайце, каб ваша сцэна была добра асьветленай, бо калі будзе на ёй зацёмна дык публіка, дрэнна бачачы вашы твары, ня будзе магчы разглядзець ні вашу характарызацыю (грым), ні вашу міміку.

Бываюць выняткі з гэтага правіла толькі тады, калі аўтор пьесы сам напісаў, што у гэтакай зьяве або у гэтакім акце на сцэне павінна быць цёмна.

Трэба, каб лямпы былі закрыты ад публікі або дошкай, або бляхай, каб сьвятло ня йшло на публіку. Калі бляха бліскучая, дык яна дае яшчэ тую карысьць, што служыць як рэфлектор, павялічваючы сьвятло лямпаў. Калі-ж рампа зроблена з дошкі, дык добра будзе калі за кожнай лямпачкай паставіць люстэрко,—яно будзе так сама павялічваць сьвятло.

Бывае, што ў часе акту трэба паменшыць, або павялічыць сьвятло: гэта бывае у такіх напрздарэньнях:

У пьесе напісана, што на сцэне цёмна; пасьля уваходзіць якаясь асоба і запаляе вагонь...

„Цёмна"—ня трэба разумець гэтак, што ўсе лямпы, якіе асьвятляюць сцэну, павінны быць загашаны. Не трэба толькі, як мага, зьменшыць сьвятло. Калі-ж на сцэне павінна зрабіцца сьвятлей („уваходзіць, запаляе вагонь"...), тады трэба лямпы адкруціць, каб яны паліліся сьвятлей. Гэтае самае датычыцца наадварот і іншых указаў аўтора, напр.: раней было на сцэне сьвятло, пасьля нехта уваходзіць і гасіць лямпу (сьвечку). Адначасна з гэтым (не раней і не пазьней!) як артыст на сцэне гасіць сьвятло, трэба зьменшыць сьвятло лямпаў у рампах.

Ведама, што гэты парадак датычыцца толькі бакавых рамп, бо немагчыма пры лямпах з газай дастаць да ніжняй, або верхняй рампы, каб публіка гэтага ня бачыла: яны нахай ужо праз увесь час гараць аднолькава, раданькі на гэта ніякай няма, хіба што наладзіце на дроце вузенькіе перад лямпамі хвіраначкі праз шырыню усей сцэны, якіе, разсоўваючыся і засоўваючыся, будуць зьмяншаць і павялічаваць асьвятленьне сцэны.

Лік лямпаў залежыць ад сілы іх сьвятла, ад велічыні салі і сцэны. Калі лямпы даюць болей сьвятла, можа быць іх меней, калі лямпы паляцца слаба, трэба іх болей. Каб рашыць ці годзі сьвятла, запалеце на сцэне ўсе лямпы і станьце ў процілежным куце салі напроціў сцэны, паставіўшы на сцэне артыстаў: калі выразна бачыце іхніе твары, дык добра. Глядзеце толькі, каб не разьмясьціць лямпы гэтак, што твар артысты будзе асьвятляны толькі тады, як ён выходзіць у глыб сцэны, а калі ён выйдзе наперад, твару яго ня відаць. Гэта здараецца, калі на першым пляне сцэны замала сьвятла, бо лямпы павешаны зашмат далёка у глыб сцэны.

Кажучы аб асьвятленьні сцэны трэба дадаць яшчэ тое, каб вы зьвярнулі так сама ўвагу і на суфлёрскую будку. Калі суфлёру ў будцы будзе цёмна, так што ён ня будзе магчы лёгка разьбіраць пьесу, пастаўце каля будкі лямпачку, або сьвечку.

Апрача сцэны павінны быць лямпы і на салі, каб публіка ня путалася ў цемры і магла знайсьці свае месцы. Лік лямпаў на салі ўжо зусім ад вас залежыць. Памятайце толькі, што перад тым, як адчыніць заслону, трэба зьменшыць або зусім загасіць сьвятло на салі. Калі ў вас няма электрычнасьці і вы прымушаны карыстацца газай, дык даволі будзе, як зменшыце святло, пад-

круціўшы толькі кноты лямпаў; бо ведама-ж, што загасіўшы лямпы зусім, будзеце мець шмат клопату, запальваючы іх пасьля канца акту ізноў нанова.

Робіцца ўсё гэта дзеля таго, што пры цёмнай салі ярчэй выглядае сцэна і дзеля таго, каб уся увага публікі зьвярнулася толькі у адзін бок, там скуль ідзе сьвятло, г. зн. на сцэну.

Калі ў вас ня хопіць людзей, каб зьмяншаць і павялічваць у патрэбе агонь у лямпах на салі, дык гэта могуць зрабіць вашы кантралёры, г. зн. тые асобы, якіе будуць стаяць каля ўходных дзьвярэй і адбіраць ад публікі білеты. Тады трэба ўжо павесіць лямпы неўдалёк ад дзьвярэй, каб кантралёрам ня прышлося, пакінуўшы сваё месцо каля дзьвярэй, прабірацца праз публіку ажно ў другі бок салі.

Калі трэба на сцэне зьмяніць колер сьвятла (напр. на чырвоны—захад сонца, або на сіні—ноч, сьвятло месяца), тады абкручваюцца лямпы адпаведнай тонкай каляровай паперай.

Каб заслона, адчыняючыся, або зачыняючыся, не загарэлася ад лямпаў ніжняе рампы, працягнеце перад лямпамі дрот.

Калі ў вас будзе электрычнае сьвятло, тады —рэч вядомая—гэтымі радамі ня прыдзецца вам карыстацца.

## Дэкорацыі.

Справа дэкорацыяў вельмі часта зьяўляецца самай труднай у аматорскім тэатру. Аднак калі ёсьць энэргія ды ахвота, і гэтую труднасьць можна лёгка перамагчы.

Есьць тры аснаўные дэкорацыі, пры якіх вы можаце іграць шмат пьес, гэта: лес, хата і пакой. Рабіць іх трэба вось як:

Л е с. Бярэце дзьве роўные і доўгіе праз усю сцэну вузкіе дошкі і цьвячкамі прыбіваеце да іх сшыты кусок палатна гэтакай вялічыні, каб закрыць усю сьценку ад падлогі сцэны да столі. Пасьля на ім малюеце такі, які вам даспадобы, пэйзаж. Калі ў сьцяне напроціў суфлерскай будкі ёсьць дзьверы ў пакой артыстаў (апраналыню), вешайце тэту дэкорацыю не пры самай сьцяне, а крыху далей ад яе на крюках, убітых у столь гэтак, каб за палатном быў свабодны праход. Праходзіць каля дэкорацыі ў часе спэктаклю трэба асьцярожна, не кратаючы яе, каб яна ня хісталася. Дзеля таго, каб закрыць бакавые сьцены, строіце г. наз. бакавые кулісы. Гэта ёсьць рамы даўжынёй ад падлогі сцэны да столі, а шырынёй больш-менш $^3/_4$—1 арш., якіе гэтак сама абіваюцца палатном і малюеце на іх дрэвы або кусты. Гэтакіх кулісаў трэба паставіць па дзьве або тры з кожнага боку, у залежнасьці ад велічыні сцэны. Ставяцца яны адна за аднэй так, як паказана на рысунку 5. Каб яны трымаліся моцна і ня падалі, трэба іх прыбіваць цьвякамі да столі і да падлогі, або—яшчэ ляпей--прыладзіць да іх падпоркі АБ, якіе так сама прыбіваюцца цьвякамі (гл. рыс. 6). Паміж гэтымі кулісамі артысты праходзяць на сцэну.



*Рыс. 5.*

Калі трэба зрабіць куст, бярэце пару аркушоў бібулы (тоўстай паперы) або фарніру, набіваеце яго на кавалкі дошчак, адпаведна абрэзваеце краі, каб контур вашай дэкорацыі быў падобны да галін сапраўднага куста і ўсё гэта з аднага боку размалёваваецца. Ставіцца гэтакі куст на сцэну пры помачы падпорак (рыс. 7).



*Рыс. 6.*

Калі спэктакль наладжаваецца ўлетку, замест бакавых маляваных кулісаў можаце сцэну прыаздобіць сапраўднымі жывымі ёлкамі ды хвоямі і галінамі; навет можна не маляваць пэйзажу на вялікім палатне, што на апошнім пляне, а толькі памаляваць яго на сіні колер неба і паставіць перад ім колькі хвояк і ёлак. Сцэна тады будзе вельмі прыгожая, а публіка, гледзячы на яе, адтрымае ўражэньне бесканечнай далі.


*Рыс. 7.*

Х а т а. Замест вісячага палатна робіце драўляную раму, а калі сцэна ў вас вялікая, дык прыдзецца зрабіць дзьве або і болей гэтакіх рамаў, каб яны былі моцные і ня хісталіся, ды абіваеце іх палатном. На гэтым палатне малюеце сцэну сялянскай хаты, г. зн. падоўжнымі адпаведнымі палосамі рысуеце мастацка бярвеньні, з якіх бывае пабудована хата. Калі ў гэтай сьцяне патрэбны для вас дзьверы, дык, прыбіўшы поперак рамы дзьве вузкіе дошкі, прымацоўваеце да іх зробленые гэтак сама з палатна, набітага не раму, дзьверы, якіе прымацоўваеце на завесах (гл. рыс. 8; драўляные часьці дэкорацыі азначаны штрыхамі). Гэтак сама робяцца бакавые сцэны, якіе кручкамі прычапляюцца або прыбіваюцца цьвякамі да задняй сьцяны. Вакно, калі яго трэба адчыняць, робіцца гэтакім самым спосабам, як дзьверы (рыс. 9) з тэй толькі розьніцай, што тые месцы, дзе павінны быць шкляные шыбы, закрываеце якой-нібудзь



*Рыс. 8.*



*Рыс. 9.*

прасьвечваючай чорнай матэрыяй, напр. чорнай мэрляй або мусьлінам. Калі гэтага ня маеце, заклейце іх чорнай паперай. Калі вакно ня трэба адчыняць, дык толькі намалюйце яго на дэкорацыі, гэта будзе шмат лягчэй.

*(Працяг будзе).*

**Ф. Аляхновіч.**

**Чародны нумар „Руні“ выйдзе 20 чэрвеня.**


*Рэдактар—ЯНКА ЛУЦЭВІЧ.*
*Выдавец—ВАЦЛАЎ ІВАНОЎСКІ.*